# Віншуем са святам Нараджэння Хрыстова!

**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 1 (769) 1 студзеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае











Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на №166



## Беларусь заняла другое месца на прасторы былога СССР па росце спажывецкіх цэн у студзені-лістападзе 2014 года

**Беларусь заняла другое месца на прасторы былога СССР па росце спажывецкіх цэн у студзені-лістападзе 2014 года, сведчыць праведзены БелаПАН аналіз звестак нацыянальных органаў статыстыкі.**

У першую тройку ўвайшлі Украіна (21,2%), Беларусь (15,5%) і Кыргызстан (8,9%). Далей ідуць Расія (8,5%), Казахстан (6,9%), Таджыкістан (6,8%), Малдова (3,9%), Арменія (1,5%), Грузія (1,4%), Латвія (0,8%) і Літва (0,4%). Цэны знізіліся ў Азербайджане і Эстоніі (па 0,6%). Няма звестак па Узбекістане. У Туркменістане за студзень—верасень цэны выраслі на 1,7%. Больш свежая інфармацыя адсутнічае.

Па росце цэн у лістападзе Беларусь з паказчыкам 0,6% раздзяліла сёмае месца з Казахстанам. Наперадзе Кыргызстан (2%), Украіна (1,9%), Арменія, Расія (па 1,3%), Малдова (0,8%) і Таджыкістан (0,7%). У Азербайджане цэны выраслі за месяц на 0,1%, у Літве — не змяніліся, у Грузіі — знізіліся на 0,1%, у Латвіі — на 0,3%, у Эстоніі — на 0,8%.

У самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы, якая мае ўласную фінансавую сістэму, у лістападзе цэны знізіліся на 0,1%, з пачатку года — выраслі на 1,1%.

У 2011—2013 гадах Беларусь была першай на тэрыторыі былога СССР па росце спажывецкіх цэн (адпаведна на 108,7%, 21,8% і 16,5%).

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*





## Штогод у Беларусь уязджаюць, выязджаюць або рухаюцца транзітам каля 5 млн. замежных грамадзян і асоб без грамадзянства

**Штогод на тэрыторыю Беларусі ўязджаюць, выязджаюць з яе ці рухаюцца транзітам каля 5 мільёнаў замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, паведамляе МУС.**

Злачыннасць сярод замежных грамадзян на тэрыторыі дзяржавы складае ўсяго 1,7% ад злачыннасці грамадзян Беларусі. Нягледзячы на вялікія міграцыйныя патокі, яна не ўплывае на агульную крымінагенную сітуацыю ў краіне.

Асноўным зараз з'яўляецца паток працоўных мігрантаў – каля 25 тысяч штогод. Гэтая колькасць не ўключае грамадзян Расіі і Казахстана, з якімі створана агульная эканамічная прастора. Такія людзі працуюць на тэрыторыі Беларусі без атрымання адпаведнага дазволу.

У сувязі з падзеямі ва Украіне сёлета для беларускіх міграцыйных органаў была асабліва актуальнай тэма вымушанай міграцыі. У межах давання гуманітарнага статусу прынятыя прыкладна 30 тысяч украінскіх грамадзян, якія зараз знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, пераехаўшы на пастаяннае месца жыхарства або для працоўнай дзейнасці.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

## Глыбоцкі раён

# Ад згушчонкі да біянапіткаў

■ Станіслаў Раманчук.

**Адным з самых вядомых брэндаў Прыдзвіння вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў з'яўля–ецца прадукцыя Глыбоцкага МКК, які трывала замацаваўся ў сотні самых прыбытковых прадпрыемстваў краіны.**

Яго пазіцыі не змяніліся і пасля далучэння яшчэ двух прадпрыемстваў з Браслава, дзе акрамя малочнага філіяла прыйшлося заняцца і рыбным цэхам "Браслаўрыба". У абнаўленне свайго новага сырнага падраздзялення ў азёрным краі глыбачане ўклалі 270 мільярдаў рублёў, а за першы год дзейнасці цвёрдыя і мяккія сыры пачалі апраўдваць затраты. Паколькі МКК стаў выпускаць і рыбныя кансервы, цяпер наспела неабходнасць абнавіць і цэх па выпуску тары, бляшанак і банак з бляхі. Адначасова на буйнейшым прадпрыемстве малочнай галіны летась пацвердзілі і славу аднаго з лепшых экспартных вытворцаў Беларусі, за што калектыў атрымаў ганаровы сертыфікат "Экспарцёр года-2014". Дайшла чарга і да мадэрнізацыі ў раённым цэнтры цэха па вытворчасці сухога малака і сыраваткі з высокай ступенню дэмінералізацыі. Яшчэ адной навінкай мінулага года глыбачан сталі асвяжальныя стэрылізаваныя напіткі "Біярытм". Іх выпуск пачаўся толькі ў снежні, а аналагічных прадуктаў, карысных для здароўя на аснове сокаў і сывараткі практычна без тлушчаў, ніхто болей у краіне пакуль не выпускае. Няма сумнення, што і гэтыя вырабы з цягам часу ацэняць спажыўцы і спецыялісты на такіх папулярных конкурсах "Прадукт года", "Чэмпіён густа", "Лепшы тавар РБ на рынку Расіі" і іншых.

## Пастаўскі раён

# У Расію пад канвоем

■ Кастусь Александровіч

**У адпаведнасці з комплекснай праграмай развіцця льнаводчай галіны яшчэ напрыканцы 2012 года пачалася мадэрнізацыя шэрагу айчынных ільнозаводаў.**

У ліку выбраных шчаслівчыкаў аказалася і такое прадпрыемства ў Паставах, дзе па плану сучасная тэхналагічная лінія павінна была запрацаваць яшчэ летась летам. Сродкаў на тэхпераўзнашчэнне ў завадчан не хапала, і раёну прыйшлося выпусціць аблігацыі і размясціць іх у Банку развіцця Беларусі. Будаўнікі ўзвялі па суседстве са старым заводам фактычна новы з лабараторыяй, фільткамерамі, дадатковымі шохамі. А вось навукова-практычны цэнтр НАН Беларусі паставіў пастаўчанам такую няўдалую бельгійскую лінію коштам звыш 31 млрд. рублёў па выпрацоўцы льновалакна, што запусціць яе ў нармальную высокапрадукцыйную працу дагэтуль не ўдалося. Толькі некалькі разоў працавала яна не болей 4 гадзін у змену, а пыл пры гэтым намнога перавышаў дапушчальныя санітарныя нормы. Хутчэй усяго справа дойдзе да разборак з пастаўшчыкамі са сталіцы ў судзе, а пакуль стары льнозавод вымушаны працаваць у 3 змены, балансуючы на мяжы выжывання. У прадпрыемства вязлізныя даўгі, яно і са сваімі пастаўшчыкамі льнотрасты не ў стане разлічыцца, з цяжкасцю знаходзіць сродкі на выплату заробкаў. Няма на заводзе і свайго агранома, хоць штогод растуць аб'ёмы пасеваў і вырошчвання лёну самімі завадчанамі.

## Мёрскі раён

# Рост, які не радуе

■ Чэслаў Якубовіч.

**Напрыканцы года напярэдадні калядных і навагодніх свят у розных кутках вобласці справілі наваселлі.**

Адразу тры такія аб'екты былі ўрачыста адкрыты ў Мёрскім раёне ў мясцовым дзіцячым санаторыі "Расінка". У гэтай мясцовасці з вельмі маляўнічай прыродай і дагэтуль любілі адпачываць, умацоўваць здароўе людзі розных узростаў. У мінулым годзе ў дзіцячай здраўніцы пабудавалі і здалі ў эксплуатацыю новы трэці корпус для маці і дзяцей з гульнявой залай. У ім абсталявалі 28 утульных пакояў, што дазволіла павялічыць колькасць адпачываючых да 300 чалавек, а таксама пашырыць магчымасці лячэння хвароб органаў дыхання, страўніка, косна-мышачнай сістэмы, кровазвароту і іншых. У гэтым санаторыі таксама ёсць і спелеапячора, знаходзяцца крыніцы з лячэбнай мінеральнай вадой, а афармілі памяшканне ў радуючых вока колерах, усё цудоўна прадумалі па еўрапейскіх стандартах быту. У дадатак да лячэбнага корпуса адкрылі кафэ, а харчаванне дзетак тут шасціразовае. Стала не пазнаць і наберажную ля возера, побач з якім размясціўся дзіцячы санаторый. Дарэчы, непадалёк ад яго выключна з дрэва ўзводзіцца і база адпачынку з рэстаранам, тэніснымі кортамі. У самім жа райцэнтры на мясцовым мясакамбінаце запусцілі сучасны халадзільны цэх з галандскім абсталяваннем для перапрацоўкі ў аўтаматычным рэжыме да 500 тон мяса. Лепшых аператыўнікаў вобласці парадавала наваселле ў 9-павярховым будынку Следчага камітэта па Віцебшчыне. Аднак жылля летась Віцебская вобласць пабудавала менеш усіх па краіне.

# Аб самым надзённым

## КАЛІ РАСІЯ БУДЗЕ І НАДАЛЕЙ СЛАБЕЦЬ, ТО БЕЛАРУСАЎ ЧАКАЕ ЗНОЎ РЭАЛЬНАЯ ДЭВАЛЬВАЦЫЯ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Калі Крэмль не пойдзе насустрач сваім мінскім калегам, то рэальная дэвальвацыя рубля непазбежная, альбо з восені трэба пераносіць раней дату выбараў першай асобы дзяржавы. У любым выпадку без дыверсіфікацыі беларускай эканомікі і без правядзення наспелых рынкавых рэформ у нас такія катаклізмы будуць паўтарацца.**

Вось ужо сапраўды гісторыя, як нас некалі вучылі ў школах, заўсёды развіваецца па спіралі. Менавіта роўна праз чатыры гады пасля заканчэння прэзідэнцкіх выбараў і драматычных потым падзей вечарам 19 снежня 2010 года ў Мінску, у Беларусі адбылася "чорная пятніца". Айчынны Нацбанк вымушаны быў увесці 30-працэнтны збор пры пакупцы замежнай валюты для грамадзян і суб'ектаў гаспадарання на фоне імклівага абвалу расійскага рубля нават у адносінах да свайго беларускага сабрата. Гэтым спадзяваліся ўлады знізіць ажыятажны попыт сярод насельніцтва на долары і еўра, а эксперты адразу загаварылі, што такія крокі толькі адклалі на пэўны тэрмін ужо рэальную, а не "тэхнічную", дэвальвацыю нацвалюты.

Увогуле канец мінулага года быў вельмі бурным, насычаным на розныя падзеі. Нават на нашых граніцах з Расіяй з'явіліся вялізныя чэргі грузавікоў, бо там сталі працаваць беларускія мабільныя мытныя і міліцэйскія пасты. Падчас татальных праверак фур і легкавушак спыняліся на фоне "прадуктовай вайны" спробы незаконнага перавозу няякасных расійскіх тавараў без дакументаў і паліва звыш устаноўленых норм. У выніку ўсходні "родны брат", які па словах А. Лукашэнкі, стаў для нас прадстаўляць такую ж пагрозу, як нядобразычліўцы на Захадзе, усё ж асадзіў назад. Расія пагадзілася фіксаваць цэны пры закупках беларускіх прадуктаў у доларах па факце перадаплаты па курсу Цэнтрабанка РФ.

Дэпутаты айчыннага парламента перад заканчэннем сваёй працы на восеньскай сесіі прынялі дзяржбюджэт Беларусі на 2015 год. І стала зразумела, што сёлета беларусаў чакае няпросты і нават цяжкі год, бо і мы залежныя ад падзення сусветных цэн на нафту. Да таго ж з 12 % да 13 % вырасла стаўка падаходнага падатку, парламент прыняў і іншыя непапулярныя меры для банкаў, страхавых арганізацый і самых прыбытковых дзяржпрадпрыемстваў. На абслугоўванне замежных даўгоў з бюджэту пойдзе вялізная сума ў 13,6 трлн. рублёў, што ў 2 разы болей, чым выдаткі на беларускую медыцыну.

Сам жа Еўразійскі эканамічны саюз пачаў сваю працу, калі яго асноўны падмурак Расія стала перажываць востры эканамічны крызіс, што міжволі б'е і па нашых інтарэсах, правакуе рост цэн на спажывецкім рынку. Міністэрства гандлю Беларусі перад Новым годам сур'ёзна папярэдзіла буйныя гандлёвыя цэнтры і дробныя гандлёвыя кропкі не павышаць цэны і прыпыніла працу адразу 13 інтэрнэт-магазінаў. Таксама недвухсэнсоўна прыгразілі, што будуць закрыты і крамы, калі яны павысяць цэны. Увогуле перад увядзеннем пасутнасці новых падаткаў на пакупку валюты (так плануецца адтэрмінаваць дэвальвацыю рубля РБ) асабліва ў Мінску і буйных гарадах краіны назіраўся неверагодны спажывецкі ажыятаж.

Наш "народзец" запанікаваў і кінуўся скупляць тэлевізары, іншую бытавую тэхніку, мэблю, бо баяўся росту цэн. Аднак перанесеныя таргі на валютнай біржы ў Мінску адбыліся ($ сціпла падрос), у найбольш вялікіх абменніках беларускай сталіцы з'явілася ў продажы валюта. Яе можна было купіць па курсу ў сярэднім 14,5 тысяч рублёў за долар. Усё ж многіх суайчыннікаў, калі нельга было змяніць гэту непрыемную сітуацыю, крыху супакоіла, што выраслі рублёвыя дэпазіты пад 50 % гадавых і што паабяцалі не павышаць цэны на паліва з-за новага валютнага збору.

Адначасова ў Беларусі былі блакіраваны на нейкі час некалькі незалежных сайтаў і інфармацыйных парталаў, а ў Міністэрстве інафармацыі прайшла экстраная сустрэча з рэдактарамі недзяржаўных СМІ, чаго даўно не практыкавалася. Зразумела, у такой сітуацыі важна было, каб панікі на спажывецкім рынку не было, але, як падаецца, пераднавагодні настрой беларусам сапсавалі з-за гэтай вось тэхнічнай дэвальвацыі. Цяпер многія і простыя людзі павінны ўсвядоміць, што гэта дрэнна, калі адна краіна Расія займае столькі (ледзь не да 50 %) у нашым знешнегандлёвым абароце. Нарэшце трэба перастаць ганарыцца, што мы-ранейшым з'яўляемся, як у савецкі час, зборачным цэхам для расійскіх прастораў і звязаны цвёрда адной вяроўкай.

Беларускае кіраўніцтва будзе цяпер любымі спосабамі імкнуцца падтрымаць стабільнасць айчыннай валюты да прэзідэнцкіх выбараў. Задача № 1 для ўлад Беларусі недзе знайсці новы дадатковы валютны крэдыт, а на той жа МВФ надзеі слабыя, бо Захад яго выдзяленне абумоўлівае пэўнымі рынкавымі ўмовамі. Фактычна цяпер сярэднія заробкі беларусаў да навагодніх святаў упалі да 350-400, а ў глыбінцы і яшчэ меней долараў. Беларусь жыве толькі за кошт экспарту калійных угнаенняў, нафтапрадуктаў і гандлю пераважна з Расіяй. Збыць тавары расіянам стала складаней, а іншых рынкаў прадаж пакуль яшчэ не знайшлося.

Калі Крэмль не пойдзе насустрач сваім мінскім калегам, то рэальная дэвальвацыя рубля непазбежная, альбо з восені трэба пераносіць раней дату выбараў першай асобы дзяржавы. У любым выпадку без дыверсіфікацыі беларускай эканомікі і без правядзення наспелых рынкавых рэформ у нас такія катаклізмы будуць паўтарацца. Дарэчы, 4 гады назад долар у Беларусі, хто не забыўся, каштаваў крыху больш 3000 рублёў. За кароткі тэрмін купюра падаражэла амаль што у 5 разоў, а гэта неабвержны доказ таго, у якім стане знаходзіцца наша эканоміка…

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Серада 31.12.14 | | | | Чацвер 01.01.15 | | | | Пятніца 02.01.15 | | | | Субота 03.01.15 | | | | Нд.04.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -9 | -7 | -4 | -2 | -2 | -1 | -1 | -1 | -1 | -1 | +1 | -1 | 0 | -1 | 0 | -2 | -2 | -2 | -1 |
| Ціск | 754 | 752 | 750 | 748 | 748 | 748 | 749 | 748 | 747 | 743 | 739 | 734 | 735 | 735 | 735 | 732 | 732 | 732 | 734 |
| Вільготнасць | 80 | 99 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 98 | 100 | 95 | 93 | 98 | 99 | 98 | 100 | 95 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-З | 8 Пд-З | 7 З | 6 З | 5 З | 4 З | 5 З | 5 З | 6 З | 7 Пд-З | 9 Пд-З | 8 З | 8 З | 8 З | 8 З | 8 З | 5 З | 4 З | 5 З |

## Дзень за днём

**Абвальная дэвальвацыя рубля РФ яшчэ болей дабавіла цяжкасцей беларускім заводам. Меней 500 долараў у месяц сталі зарабляць у Беларусі ўжо 40 % працуючых. Валюта для беларусаў "падаражэла" на 30 %, простыя людзі зноў збяднелі. Па краіне сталі закрываць магазіны вядучых гандлёвых сетак "Еўраопт", "Гіппа", "5 элемент", "Электрасіла", у абменніках стала цяжка купіць валюту. А. Лукашэнка паставіў перад МЗС задачу адшукаць новыя рынкі збыту айчынных тавараў, а ўраду весці разлікі з Расіяй тавары толькі ў валюце. Урад Беларусі дадаткова падтрымае гульнявыя віды спорту.**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Рэжыму Пуціна пагражае крах, як пацвердзіла газета Daily Mail, бо толькі расійскія кампаніі павінны аддаць даўгоў да 700 мільярдаў долараў, з іх – 150 мільярдаў да канца 2015 г.

**Саудаўская Аравія**. Урад краіны давёў свае валютныя рэзервы да 900 мільярдаў долараў, даў зразумець АПЕК, што будзе павялічваць 5 гадоў аб'ёмы здабычы таннай за 60 долараў нафты.

**Украіна.** На сустрэчы ў Кіеве глава Беларусі А. Лукашэнка запэўніў, што беларусы ўсяляк будуць дапамагаць украінцам, краіны дамовіліся стварыць сумесны тэлеканал.

**Расія.** Экс-міністр фінансаў РФ А. Кудрын спраганазаваў далейшае аслабленне расійскага рубля на працягу яшчэ 2-3 наступных гадоў, краіну чакае сістэмны эканамічны крызіс.

**Украіна.** Адзін з лідараў баевікоў-сепаратыстаў "ДНР" А. Пургін прызнаўся, што Пуцін дапамог ім цяжкім узбраеннем толькі тады, калі Кіеў мог іх канчаткова знішчыць.

**Куба.** Большасць простых кубінцаў парадавала рашэнне прэзідэнта ЗША Барака Абамы адмяніць гандлёвае эмбарга і пачаць нармалізацыю адносін паміж краінамі.

**Бельгія.** Савет ЕС увёў дадатковыя істотныя санкцыі на інвестыцыі, паслугі і гандаль з Крымам і Севастопалем, на паўвостраве ўзровень жыцця пагоршыўся з-за крызісу ў РФ.

**Францыя.** Пасля паўгода навучання 400 расійскіх маракоў вярнуліся дамоў без двух верталётаносцаў "Містраль", французы адмовіліся ад перадачы з-за падзей у Данбасе.

**Расія.** Экс-глава баевікоў у Данбасе І. Стралкоў (Гіркін) не выключыў, што ён і Пуцін могуць стаць суседзямі па камерах у Гаазе, калі РФ не стане сур'ёзна ваяваць з Украінай.

**ЗША.** Паводзіны і рыторыка Пуціна, як заявілі эксперты Forbes, сур'ёзна пагражаюць не толькі самой Расіі, але і эканомікам Беларусі, Казахстана і іншых краін былога СССР.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў супакоіў нацыю, што ўрад краіны мае план дзеянняў нават на выпадак падзення цэн на нафту да 40долараў, але крызіс будзе мінімум 2 гады.

**Англія.** Упершыню ў гісторыі англіканскага касцёла новым біскупам Стокпорта прызначылі першую жанчыну Лібі Лейн, яна атрымала права быць святарамі 20 год назад.

**Францыя.** Рэваншысцкая палітыка Пуціна, як заявіў былы рэктар Расійскай эканамічнай школы С. Гурыеў, прывяла РФ да эканамічнай катастрофы, з-за гэтага пацерпіць просты народ.

**ЗША.** Карпарацыя Sony Pictures з-за пагроз хакераў і тэрактаў паклала на паліцу сваю новую камедыю "Інтэрв'ю", у ёй высмейваўся адыёзны лідар КНДР Кім Чэн Ын.

**Расія.** Асноўны цяжар крызісу, як заявіў эканаміст А. Дзявятаў, адчуе краіна ў 2-й палове 2015 года, бо ў ЦБ закончыцца валюта, спатрэбіцца зменшыць расходы дзяржбюджэту.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Каб супакоіць насельніцтва А. Лукашэнка заявіў, што Беларусь не будзе бегчы за Расіяй і дэвальвіраваць нацыянальны рубль, аднак попыт на валюту стаў рэзка расці.

**Мінск.** Увядзенне 30 % падатку на пакупку валюты, як заявіў вядомы эканаміст С. Чалы, яшчэ горш, чым дэвальвацыя, бо гэта паўтарэнне балючых памылак вясны 2011 года.

**Воранава.** Дзякуючы майстэрству ўрачоў з Гродна ўдалося цудам выратаваць жыццё 3-гадовага хлопчыка, які бегаў з манікюрнымі ножніцамі і загнаў іх сабе ў сэрца.

**Мінск.** Генеральны дырэктар бізнес-школы ІПМ Павел Данейка заявіў, што непазбежна дэвальвацыя беларускага рубля, бо расійскі рынак стаў неэфектыўным для нашых тавараў.

**Мазыр.** Калектыў ААТ "Мазырсоль" абурыла, што Расспажыўнагляд заявіў, што беларуская, як і ўкраінская соль, не адпавядаюць нормам харчовай прадукцыі.

**Мінск.** У 2015 годзе кошт шэнгенскіх віз для беларусаў можа патаннець, як заявіла глава прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора, магчыма павелічэнне і тэрмінаў дзеяння віз.

**Гомель.** У многіх работнікаў "Гомсельмаша" з-за абвалу ў Расіі заробкі і прэміі знізіліся ў 1,5 разы, асноўныя цэхі сталі прастойваць, раней зменшылі тут штат працуючых.

**Ліда.** Дырэкцыі "Лідахлебапрадуктаў" прыйшлося затрымаць выдачу заробкаў з-за недахопу 1,4 млрд. рублёў і даўгоў спажыўцоў, шмат цяжкасцей на ўнутраным рынку.

**Бабруйск.** Мясцовы суд аштрафаваў 4-х актывістаў Свабоднага прафсаюза па 1,05 мільёнарублёў кожнага за галадоўку пратэсту супраць звальнення з завода трактарных дэталяў.

**Гродна.** У мясцовым дзяржуніверсітэце ідзе пагром навукоўцаў гісторыкаў: услед за доктарам навук С. Кульсельверставай, 3 дацэнтамі звольнілі археолага Г. Семянчука.

**Пінск.** Міліцыя адшукала і затрымала 17-гадовага падлетка, выхадца з Іванаўскага раёна, які з пнеўматычнага пісталета страляў па групе дзяцей і параніў аднаго з іх.

**Мінск.** Міністр абароны Беларусі А. Раўкоў паведаміў аб закрыцці 37 ваенкаматаў у рэгіёнах з малой колькасцю ваеннаабавязаных і прызыўнікоў.

**Быхаў.** Адразу 8 чалавек трапілі ў бальніцу пасля сутыкнення вечарам каля вёскі Абідовічы легкавушкі 39-гадовага расіяніна на чужой паласе з мікрааўтобусам.

**Клімавічы.** Судпрызнаў былую ўзорную прыёмную маці Ірыну Моцную ў злоўжываннях правамі апекуна над сям'ю дзецьмі і пакараў яе 4 гадамі турмы ўзмоцненага рэжыму.

**Мінск.** Уладальнік ФК "Дынама", адзін з самых багатых людзей краіны Ю. Чыж адправіў у адстаўку 28-га па ліку за апошнія 14 гадоў галоўнага трэнера Уладзіміра Жураўля.

# Чатыры раёны Віцебскай вобласці атрымалі 200 тыс. еўра для паляпшэння экалагічнай абстаноўкі



■ Сяржук Серабро

**Чатыры раёны Віцебскай вобласці атрымалі 200 тыс. еўра для паляпшэння экалагічнай абстаноўкі, паведамілі карэспандэнту БелТА ў фондзе «Інтэракцыя».**

Гранты па 50 тыс. еўра кожны былі вылучаны Браслаўскаму, Глыбоцкаму, Полацкаму і Чашніцкаму раёнам Шведскім агенцтвам у галіне міжнароднага супрацоўніцтва (SIDA). «Фінансаванне прадастаўляецца згодна міжнароднаму праекту па экалагічным планаванні, які накіраваны на ўкараненне Мясцовых экалагічных планаў дзеянняў (МЭПД). У ініцыятыве ўдзельнічаюць 10 беларускіх і 4 малдаўскіх раёны, грошы пойдуць на стварэнне зялёных зон, а таксама мадэрнізацыю сістэмы кіравання бытавымі адходамі». Планы дзеяння ўяўляюць сабой стратэгіі па аналізе і ліквідацыі пагроз для навакольнага асяроддзя. У Беларусі распрацоўку гэтых стратэгій каардынаваў фонд «Інтэракцыя», а на працягу кастрычніка-лістапада бягучага года яны былі афіцыйна адобраны раённымі ўладамі. Кожны з МЭПД уключае ў сябе канкрэтную «зялёную» ініцыятыву, якая адлюстроўвае спецыфіку раёна і цякучую экалагічную сітуацыю ў ім.

Так, у Полацку сродкі пойдуць на барацьбу са шкоднымі выкідамі ў атмасферу, крыніцамі якіх з'яўляюцца прамысловыя прадпрыемствы. У горадзе будуць створаны тры зялёныя зоны, дзе высадзяць расліны, якія забяспечваюць найбольш эфектыўнае фільтраванне паветра. Акрамя таго, у раённым цэнтры дзяцей і моладзі з'явіцца цяпліца, у якой юныя экалагі змогуць вырошчваць такія расліны. Варта адзначыць, што ў 2011 годзе Полацк першым у Беларусі далучыўся да Пакту мэраў. Гэты рух аб'ядноўвае больш за 6 тыс. гарадоў, якія імкнуцца да 2020 года знізіць узровень вуглякіслага газу на 20%.

У Браславе мясцовыя ўлады пры дапамозе атрымаfamous сродкаў зоймуцца праектаваннем новай рэкрэацыйнай зоны ў цэнтры горада. Чакаецца, што браслаўчане і турысты змогуць пагуляць пад шатамі дрэў і адпачыць ля новай сажалкі ў 2017 годзе. У створаным месцы адпачынку размесцяцца гульнявыя пляцоўкі для дзяцей і летняе кафэ.

Што ж тычыцца Глыбоцкага і Чашніцкага раёнаў, то тут гранты пойдуць на ўдасканаленне працэсу збору смецця. Для Глыбоцкага раёна будзе набыты сучасны смеццявоз, а ў Чашніках і Навалукомлі - усталявана каля 200 кантэйнераў для раздзельнага збору цвёрдых бытавых адходаў.

«Для кожнага з раёнаў было выдзелена 50 тыс.еўра. Аднак для ажыццяўлення ў жыццё экалагічных ініцыятыў мясцовыя ўлады могуць выкарыстоўваць сродкі і з іншых крыніц. У прыватнасці, на аснове мясцовых планаў па абароне навакольнага асяроддзя могуць складацца заяўкі на атрыманне міжнароднай дапамогі», - адзначыў каардынатар МЭПД у Беларусі. Мясцовы фонд садзейнічання развіццю міжнароднага дыялогу і супрацоўніцтва «Інтэрак–цыя» - недзяржаўная аргані–зацыя, спецыялізуецца на распрацоўцы і рэалізацыі праектаў, што фінансуюцца ЕС, у Беларусі і суседніх краінах.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля абвалу расійскага рубля многія гараджане з валютай на машынах рванулі ў магазіны прыгранічных расійскіх гарадоў, скупляюць усё падрад па больш нізкіх цэнах.

**Орша.** Мясцовы мясакансервавы камбінат стаў пераможцам нацыянальнага конкурсу лепшых брэндаў прызнання прадукцыі сярод спажыўцоў "Народная марка-2014".

**Докшыцы.** Пракуратура выявіла падчас праверкі гаспадарак краю дрэнныя ўмовы працы, незахаванне санітарных норм і правіл на мехдварах, складах і на фермах раёна.

**Віцебск.** Камітэт Дзяржкантролю вобласці за затрымкі заробкаў працаўнікам у студзенілістападзе аштрафаваў больш чым на 1,4 млрд. рублёў 1430 кіраўнікоў і юрасоб.

**Полацк.** Жорсткім чынам раней судзімы 56-гадовы мужчына нажом забіў свайго 68-гадовага суседа ў яговым доме пасля адмовы купіць некалькі прапанаваных тавараў.

**Глыбокае.** Шведскае агентства міжнароднага супрацоўніцтва Sida выдзеліла раёну грант у суме 50 тысяч еўра для набыцця сучаснага смецціявоза па праграме экалагічных ініцыятыў

**Віцебск.** У ходзе спецаперацыі міліцыя выявіла і затрымала чарговую злачынную групу, якая праз Інтэрнэт займалася распаўсюджаннем псіхатропных рэчываў.

**Паставы.** У цэнтры горада адкрыўся трохпавярховы гандлёвы цэнтр плошчай 970 квадратных метраў сеткі "Твой" з шырокім выбарам бытавой тэхнікі і мэблі РБ, Польшчы, Украіны.

**Орша.** На аўтадарозе на Віцебск ля вёскі Касачы ў выніку сутыкнення легкавога аўтамабіля з фургонам загінулі 2 пасажыры "Опеля", яшчэ 3 чалавекі былі паранены.

**Браслаў.** Пад суд пойдзе 20-гадовы жыхар вёскі Каз'яны, які прыехаў у Паставы, напіўся і аказаў супраціўленне міліцыянеру, ударыў яго нагой і ўкусіў за руку пры затрыманні.

**Віцебск.** Пасля месяца службы і першага скачка з парашутам 400 навабранцаў 103-й гвардзейскай мабільнай брыгады сіл спецаперацый прынялі ваенную прысягу.

**Мёры.** На тэрыторыі раёна на аўтадарозе Р-14 адкрылі яшчэ адзін аб'ект прыдарожнага сервісу – кафэ "ЭдЭм", а колькасць аграэкасядзіб на ўлонні прыроды вырасла да 34.

**Глыбокае.** Маляваныя дываны, як від народнага жывапісу Глыбоччыны і Пастаўшчыны Міністэрства культуры Беларусі ўнесла ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей.

**Расоны.** "Я нарадзіўся" – пад такой назвай у памяшканні ЗАГСа прайшло 2-е па ліку сёлета ўшанаванне яшчэ 12 маладых сем'яў, у якіх з'явіліся першыя дзеці.

**Віцебск.** На тэрыторыі аўтастаянкі па вуліцы Церашковай позна вечарам загарэліся 2 фуры з-за наўмыснага падпалу, агонь пашкодзіў кабіны грузавікоў Volvo і Iveco.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



# Мая школа

**Я прайшла доўгі шлях у жыцці: мне 85 гадоў. За такія доўгія гады адбылося шмат змен у жыцці. Цяпер на памяць прыходзяць дзіцячыя і школьныя гады, пра якія і хачу расказаць.**

**■ Эдуарда Салавей**

Гэта быў 37-мы год мінулага стагоддзя. У гэтым годзе я пайду ў школу... Але 1 верасня яшчэ няхутка, цяпер лета – можна і пагуляць. Мы тады жылі ў вёсцы Ласкаўшчына, а непадалёк ад нашай вёскі знаходзіўся панскі двор пад назвай Лупачэва. І там жыў пан Палачанскі.

Праз гэты двор ішла дарога з Дунілавіч на Глыбокае. Яе называлі гасцінец. Па гэтай дарозе з Вілейкі да пана ў Лупачэва прыязджаў яго швагер на машыне. Мы, дзеці, яе ніколі не бачылі і нават не чулі пра яе. І да сягонняшняга дня памятаю: быў такі пагодны дзень, нядзеля. Мы з сяброўкай пайшлі на панскую дарогу пагуляць. Як толькі прыйшлі, дык убачылі, як з двору нешта бліскучае ляціць і гудзіць. Мы з вялікага страху на абочыне дарогі заваліліся, у траву схаваліся і ляжалі датуль, пакуль стала ціха. Падняліся з гэтай травы ні жывыя, ні мёртвыя ад страху. Дадому па дарозе ісці баяліся. Вось якія мы тады былі баязлівыя. Цяперашнія дзеці машын баяцца не будуць, бо яны адмалку іх бачаць і чуюць.

Лета адгулялі. Трэба рыхтавацца да школы. Мае бацькі мне пакуплялі ўсё, што трэба было да школы. У той год з нашай вёскі сабралася 12 школьнікаў. У першы клас нас ішло пяцёра.

Пачатковая школа знаходзілася ў суседняй вёсцы Завараты. Гэта за дзве вярсты ад нашай вёскі. Але для мяне там адкрывалася тое, чаго я не бачыла: і школа, і крама (спудзельня), і царква старая. Бацюшкі пастаяннага там не было, таму што мала было праваслаўных, але святар з Ласіцы прыязджаў 2 разы ў год, вясной і восенню, і тады адбываліся вялікія фэсты.

Першага верасня ў школу нас павялі бацькі, кожны свайго першакласніка. Першы ж дом на ўскраіне вёскі і была школа. На сцяне вісела шыльда, напісаная вялікімі літарамі. Мы тады чытаць не ўмелі, але нехта з бацькоў прачытаў: "Школа повшэхна Завруцка". Зайшлі ў школу. Настаўніца сустрэла весела, пазнаёмілася з усімі бацькамі, распявала пра сябе.

Паходзіла яна з горада Львова. Польская настаўніца Гэлена Пальчэўская. Нас першакоў сабралася шмат, ажно пятнаццаць, і бацькоў прыйшло таксама шмат. Пакуль там нас усіх пазапісвалі, мы сядзелі ціха ў лаўках і разглядалі школу.

Школа была вялікая, светлая, пяць вокан і такія белыя сцены, на якіх віселі тры партрэты, а на цэнтральнай сцяне вісеў такі прыгожы каталіцкі крыжык.

Потым бацькі пайшлі, а мы засталіся. Настаўніца з намі пачала размову: пыталася, як нас завуць і як зваць нашых бацькоў. Усё нам тлумачыла: якія будуць парадкі ў школе і як трэба сябе паводзіць. Пра ўсё нам распавядала, каб ведалі. Нават растлумачыла, што за людзі на партрэтах...

На першым быў былы маршал Юзаф Пілсуцкі, на другім – тагачасны прэзідэнт Ігнацы Масціцкі, а на трэцім – тагачасны польскі маршал Эдвард Рыдз-Смiглы.

– А перад гэтым крыжыкам, – сказала настаўніца, – перад пачаткам заняткаў будзем чытаць малітву, каб нам Бог дапамагаў у навуцы.

І яшчэ вывела нас у калідор і растлумачыла:

– На гэтых вешалках будзеце вешаць свае паліто, аб гэты дыванок будзеце выціраць чыста туфлі". А ў кутку быў умывальнік, вісеў чысты ручнік і ляжала пахнючае мыла.

– Тут будзеце мыць рукі, а ежэлі кто пэшыдзе брудны, то бэндзе мыць і тваж, – жартавала з намі настаўніца і ўсё гаварыла на польскай мове. Нам цяжка было ўсё зразумець, але яна так старалася, каб мы разумелі.

– Калі вам трэба што ў мяне запытацца, то называць мяне будзеце так – проша, пані, – тлумачыла настаўніца. Вось так і прайшоў першы дзень у школе.

У першую змену ішлі трэці і чацвёрты класы, а ў другую – першы і другі. На другі дзень мы пайшлі з сумкамі і з усім, што трэба было. Прыйшлі, паселі ў лаўках і сядзім ціхенька. Нам сказалі другакласнікі, што як прыйдзе настаўніца, трэба ўсім устаць. Мы так і зрабілі. Настаўніца, ўвайшоўшы, сказала: "Добры дзень!". А мы адказалі: "Добры дзень, пані!".

Перад пачаткам вучобы мы ўставалі, жагналіся і разам з настаўніцай чыталі малітву. Малітва была кароткая. І так пайшла вучоба кожны дзень.

Нам было цяжка прывыкаць да польскай мовы, мы былі прывыкшы да беларускай вясковай гаворкі, а прыйшлося прызвычайвацца да польскай мовы. Была ў школе строгая дысцыпліна, каб была цішыня, а калі ты што зрабіў дрэннае ці шумеў, за гэта цябе паставяць на калені ў кут, і стаяць трэба было цэлы ўрок. Дык гэта ж было сорамна перад усім класам. Нам, дзяўчынкам, на каленях стаяць не прыходзілася, у большасці гэта выпадала хлопчыкам, бо яны былі непаслухмяныя.

Я вельмі любіла школу, у ёй было так цікава. Было так цікава навучацца з польскага буквара, які называўся "Элемэнтаж". Такія там былі прыгожыя малюнкі. Мы, дзеці, вельмі любілі гэту кніжку.

Дні ішлі. Падыходзіла ўжо свята Каляды і Новы 1938 год. У школе ў нас ёлкі не было, у той час пра дзеда Мароза мы і не чулі, а ёлку, калі хто хацеў, ставілі дома, у сваёй хаце, і бацькі клалі падарункі нібыта ад святога Мікалая. Былі і навагоднія канікулы.

А пасля канікул у школе ўсё пайшло сваёй чарадой. Адзін раз у месяц прыязджаў у школу ксёндз на рэлігію. Ен так з намі добра і ветліва абыходзіўся, вучыў нас усяму добраму: каб мы не кралі і не былі манюкамі, слухалі бацькоў і старанна вучыліся, прыходзілі ў касцел і не забываліся кожны дзень маліцца. Пра Святое пісанне расказваў.

Былі ў нас і экскурсіі. Вадзіла нас настаўніца да шаўца, дзе боты шылі, да сталяра, і ўсё гаварыла, каб прыглядаліся, можа, і мы некалі гэта будзем рабіць.

У той час ніхто з вясковай школы дзяцей у горад на экскурсіі не вазіў і моды такой не было, дзяцей прывучалі да вясковага жыцця.

Ужо было пад вясну, у школу прыязджалі дактары з Дунілавіч. Правяралі чысціню і здароўе, правяралі зрок, слухалі кожнага шольніка і рабілі прышчэпкі ад воспы. Калі знаходзілі каго нездаровым, выпісвалі рэцэпты і пісалі запіскі бацькам, што трэба дзяцей лячыць.

Першы год школы падыходзіў да канца, мы ўжо навучыліся добра чытаць і пісаць. Гэта быў ужо месяц май. Адзін дзень настаўніца нам сказала:

– Заўтра, дзеці, пойдзем на экскурсію ў лес. Бярыце з сабой вёдры: будзем збіраць хробоншчы.

А гэта так называліся папольску майскія жукі. У той час іх было так шмат у маі, што вечарам, як разлётаюцца, страшна было ісці, каб не выбілі вока. І яны наносілі шкоду садам, аб'ядалі кветкі, з-за чаго не было ўраджаю. А ў лесе, на лазе, яны сядзелі цэлымі гронкамі.

Вось мы і прыйшлі да лесу, распалілі вогнішча на дарозе непадалёк ад лесу. Хлопчыкі па камандзе пачалі страсаць гэтыя хробоншчы, а дзяўчаты збіраць у вёдры і насіць у вогнішча. Шмат мы іх там спалілі, проста не палічыць. А настаўніца кажа:

– Вось які вы добры ўчынак зрабілі: так шмат знішчылі шкоднікаў.

Адыходзячы, касцёр загасілі, смецце ўсё з дарогі прыбралі і пайшлі.

Так пасля гэтай экскурсіі і закончыўся мой першы клас. Летнія канікулы прагуляліся, трэба зноў рыхтавацца да школы. Я перайшла ў другі клас.

Мы ўжо пасмялелі, навучыліся папольску гаварыць, нам было ўжо ўсё зразумела. Вучоба ішла таксама, але больш цікава. Нават гульні змяніліся. Настаўніца сказала кожнаму з нас прынесці па 20 грошай, і за тыя сабраныя грошы купілі 2 мячы. У школьным садзе быў вялікі пляц, на гэтым пляцы запрошаны майстар нацягнуў доўгую сетку. Вось і пайшла гульня. Гулялі і меншыя, і большыя. Гулялі аж пакуль было цёпла, на зіму гульня закрылася.

Святкавалі і дзяржаўныя святы, але не вельмі гучна. На гэта трэба быў арганізатар, а яго не было. Наша настаўніца не магла з усім справіцца: яна працавала адна. Вяла ўсе прадметы ў чатырох класах. Нават вучыла дзяўчынак вышываць і плясці карункі. Проста дзіва, як яна з усім упраўлялася.

Падыходзілі калядныя і навагоднія канікулы. Мы былі дома і былі рады, што не нада гурбы мясіць. У той час дзецям было цяжка хадзіць у школу зімой: трактароў не было, каб снег расчышчаць, а кожны дзень трэба было па гурбах дзве вярсты туды і назад прайсці.

Недалёка ад школы быў дом, на сцяне якога вісела шыльда "Святліца" (пацяперашнім - клуб). У гэтай святліцы збіралася моладзь кожны вечар. Людзі з Заварат хацелі ведаць, што адбываецца на свеце. Усёй вёскай зlaжылі грошы і купілі радыё, устанавілі яго ў святліцы і збіраліся кожны вечар слухаць.

У той час радыё было толькі ў паноў, а простыя людзі былі занятыя толькі працай. Вадзіла і нас настаўніца са школы слухаць радыё. Нам было вельмі цікава, мы яго ніколі не бачылі і не чулі. Вадзіла яна нас тады, калі выступаў польскі прэзідэнт Ігнацы Масціцкі, ён было цікава слухаць, але перадачы былі несуцешныя. Людзі гаварылі, што можа ўспыхнуць вайна. Мы, дзеці, не разумелі, што такое вайна, і радаваліся, што вучэбны год ідзе да завяршэння і будуць летнія канікулы.

Надышоў месяц май. 3 мая было дзяржаўнае свята, Дзень Канстытуцыі. Усе класы ў школу прыйшлі ў адну змену. На школьнай сцяне быў вывешаны вялікі белчырвоны сцяг. Гэта святочная ўрачыстасць адбывалася ў школьным садзе.

Я і сёння памятаю, які быў сонечны і прыгожы дзень. Свята пачалося песнямі, вершамі, гульнямі. Чаго там толькі не адбывалася. Кожны клас хацеў паказаць сваё майстэрства. І усім гэтым кіравала наша любімая настаўніца Гэлена Пальчэўская. Пры заканчэнні свята мы ўсе праспявалі польскі гімн "Ешчэ польска не згінэла". І быў такі заклік: "Нех жые! Нех жые! Нех жые!"

Вось так і закончыўся мой другі клас. Летнія канікулы праляцелі незаўважна. Трэба рыхтавацца ў школу, я перайшла ў трэці клас. Гэта быў 1939 год.

Але ў трэцім класе вучыцца не прыйшлося, толькі распачаўся вучэбны год, а тут вайна.

17 верасня прыйшлі рускія. І мая польская школа закончылася назаўсёды.

У 1940-м годзе адкрылася школа таксама ў Заваратах, але ўжо руская. Настаўніца была тая самая, Гэлена Пальчэўская, але вучыла яна нас ужо па-руску.

Я зноў пайшла ў першы клас, і мы пачыналі вучыцца па буквару. У той час Расія была бедная на кніжкі. Адпускаўся 1 буквар на дваіх. Мы са сваёй сяброўкай дзяліліся: адзін дзень буквар быў у мяне, другі – у яе. Але вучоба ішла цікава, мы былі ўжо немалыя, хутка ўсё сталі разумець. Матэматыцы нас вучыць было не трэба, заставалася навучыцца чытаць і пісаць.

Пад вясну рыхтаваліся да свята Першага мая. Вывучалі рускія песні, амаль кожны дзень. Настаўніца нам сказала:

– Дзеці, заўтра 1 мая, свята. Прыхадзіце ўсе класы разам, рана. Прыгожа апраніцеся, і мы ўсей школай пойдзем у сельсавет.

Сельсавет быў за дзве вярсты, у былым панскім двары Міхалова. Быў сонечны і цёплы першамайскі дзень. Нас усіх пастроіла настаўніца, як войска на парадзе, уперадзе большыя, а ў канцы – меншыя. І так ішлі чацвёркамі, у кожнага ў руках быў чырвоны сцяжок невялічкі, а наперадзе большыя вучні неслі вялікі чырвоны сцяг. у самым пачатку калоны ішла настаўніца і ўсё падавала каманды, каб мы спявалі. І рускія песні разліваліся наўкола...

Нас там сустрэла начальства, раённае і сельсавецкае. На двары была трыбуна. Выступала начальства, і яшчэ слова далі мясцовым, хто хацеў і мог штосьці сказаць. Уся гэта цэрымонія скончылася, і мы пайшлі дамоў.

У гэтым месяцы закончыўся і мой першы клас рускай школы. Летам я даведалася, што мая першая настаўніца з'ехала, калі і куды - невядома. Мне было так сумна, што не развіталася з ёй. Усё ж яна навучыла мяне польскай і рускай мовам. Дзякуй ёй за ўсё. Яе ўжо няма, але няхай ёй будзе лёгка на тым свеце. Яе мне немагчыма забыць.

Летам у 1940-м годзе школу перабазіравалі ў двор Лупачэва, у панскі пакой. Вось там было месца для школы проста выдатнае. Прыслалі нам рускую настаўніцу, звалі яе Наталля Іванаўна, прозвішча не памятаю. Мы яе палюбілі. Вучыла яна добра па-руску і па-беларуску.

Я так любіла беларускія ўрокі і атрымоўвала за іх самыя вышэйшыя адзнакі. Настаўніца была адна, было ёй многа працы, але ўсё роўна рыхтавала нас да Новага года.

Мы ўпершыню ўбачылі навагоднюю ёлку. У гэтай школе было дзе ёлку паставіць! Яна стаяла ў вялікім пакоі аж да столі. У той час не было яе чым упрыгожыць, але мы прыбралі яе каляровай паперай і камочкамі белай ваты.

На ёлку папрыходзілі і нашы бацькі, было і ім цікава паглядзець, як будуць іх дзеці весяліцца. Карагод каля ёлкі адбываўся так весела ад таго, што гуляў разам Дзед Мароз. Напрыканцы гэтай забавы Дзед Мароз пачаў раздаваць падарункі. Яны былі зусім малыя, але на той час дзеці і такім радаваліся. Весяліліся ад таго, што такая вясёлая сустрэча Новага 1941 года адбылася, якой ніколі не бачылі.

Пасля навагодніх канікулаў прыязджалі дактары правяраць чысціню і здароўе. Настаўніца была такая добрая, мы яе так паважалі, старанна вучыліся.

Першага мая адсвяткавалі ў школе, весела і дружна. Да завяршэння падыходзіў вучэбны год. Мне было так радасна, што трэці клас я закончыла на выдатна і перайшла ў чацвёрты. У чацвёртым класе праходзілі экзамены, а мы, меншыя, радаваліся, што хутка летнія канікулы, і мы будзем гуляць.

Але ніхто не думаў і не ведаў, што нас чакае. 22 чэрвеня пачалася вайна. Тут мая школа закончылася назаўсёды.

■ Уладзімір Журавок

# Цвёрдая рука ці – дэрэгуляванне?

**Эканоміку Беларусі, як і суседніх Расіі з Украінай, ліхаманіць. І прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка разам з Нацбанкам цвёрдай рукой наводзіць парадак: усталёўвае курсы валют, рэгулюе кошты...**

**Ці патрабуецца цвёрдае рэгуляванне эканомікі? Што думае беларускі бізнэс пра рэформы, ці жадае ён удзельнічаць у іх распрацоўцы, і ў якіх кроках па выпраўленні сітуацыі мае патрэбу краіна?**

У рамках праекта РЭФОРУМ Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (BISS) правёў адмысловае даследаванне на гэту тэму.

У апытанні бралі ўдзел 50 кіраўнікоў і топ-мэнэджараў малых і сярэдніх прадпрыемстваў з усіх рэгіёнаў краіны. Прадстаўнікі беларускага бізнэсу (74%) лічаць пераўтварэнні неабходнымі. Аналітык BISS **Алена Арцеменка** распавяла, што адна з задач даследавання — зразумець, якія прыярытэты ў асноўных мэтавых груп грамадства.

— Мы задавалі ўсім адно галоўнае пытанне: «Як вы лічыце, рэформы ў Беларусі павінны быць накіраваныя на падвышэнне ўплыву дзяржавы і ступені дзяржаўнага кантролю, ці на зніжэнне ўплыву дзяржавы і ступені дзяржкантролю?» Насуперак насельніцтву, службоўцы, грамадзянская супольнасць упэўнены: рэформы павінны быць накіраваныя на зніжэнне ролі дзяржавы і ступені дзяржкантролю.

Што да прыярытэтных сфер — ахова здароўя, адукацыя, сацыяльнае забеспячэнне, эканоміка, транспарт, ЖКГ, судовая сістэма, палітычная сістэма і сістэма дзяржкіравання, то для бізнэсу на першым месцы менавіта рэфармаванне эканомікі.

Галоўным чынам усе, хто выказваўся за рэформы, у тым ліку і службоўцы, не так горача падтрымлівалі прыватызацыю буйных прадпрыемстваў, хоць выказваліся за тое, каб прыватызаваць сярэднія прадпрыемствы. Не падтрымалі яны і забеспячэнне прыватнай уласнасці на зямлю з усімі правамі ўласніка, але адстойвалі сумленную, справядлівую канкурэнцыю паміж прыватнымі і дзяржаўнымі прадпрыемствамі.

А вось прадстаўнікі бізнэсу наадварот за такія сур'ёзныя меры, як прыватызацыя буйных прадпрыемстваў і прыватную ўласнасць на зямлю.

— Такім чынам, «дэрэгуляванне» ў нашых умовах — гэта…

– Па-першае, гэта падтрымка сур'ёзных структурных лібералізацыйных рэформаў у эканоміцы, падругое, зніжэнне ўзроўня дзяржаўнага кантролю.



Чаму ж абывацелі (а іх большасць) — разыходзяцца ў меркаванні з бізнэсмэнамі, грамадзянскай супольнасцю і нават службоўцамі?

Кіраўнік малога прадпрыемства **Віктар Сянкевіч:**

— Вось у цяперашняй складанай сітуацыі Аляксандр Лукашэнка ўзяўся навесці парадак з валютай, і адразу навёў. Пры СССР як было? Адзін моцны кіраўнік. Мой жыццёвы досвед сведчыць: руліць павінна дзяржава. Як на караблі капітан, які за ўсё адказвае. А інакш разброд і хістанні, як ва Украіне. Даў Януковіч волю алігархам, і што з гэтага выйшла? Хай ужо лепш дысцыпліна, парадак і цвёрдая рука.

Намеснік старшыні Еўрапейскай асацыяцыі бізнэсу, кандыдат эканамічных навук **Марына Бароўка** згаджаецца з тым, што рэфармаванне эканомікі неабходнае. Таму што ў нас праблемы сістэмнага характару, гэта значыць яны не выпадковыя, не злучаныя з нейкімі істотнымі вонкавымі фактарамі:

— Калі ў краіне кожныя 2 — 3 гады адбываецца дэвальвацыя, гэта пэўна сістэмная праблема. Сама галоўнае пытанне: якімі павінныя быць змены, каб усярэдзіне рынка паменшыць колькасць неадпаведнасцяў з тым, як мы робім бізнэс і з тым, як ён павінен рабіцца паводле заканадаўства?

Паколькі Беларусь – гэта малая адкрытая эканоміка, якая вельмі моцна залежыць ад любога вагання амаль на любы прадукт на вонкавым рынку, мы павінны быць вельмі гнуткімі да ўсіх вонкавых зменаў, да любых працэсаў, якія адбываюцца на міжнародным рынку.

— А што да высновы аб дэрэгулявання, аб падвышэнне ролі дзяржавы?

— Давайце разважаць так: у беларускім грамадстве не ўсе эканамісты, эксперты, не ўсё разбіраюцца ў дзяржаўных функцыях, у пытаннях падаткаабкладання. У краіне ёсць Міністэрствы эканомікі, фінансаў, іншыя галіновыя ведамствы, ёсць грамадзянская супольнасць, прадстаўнікі бізнэс-асацыяцый, якія могуць прадставіць экспертызу эканамічных працэсаў. Таму, калі казаць пра тое, трэба нам дэрэгуляванне ці не трэба, варта прыслухацца ўсё-такі да дзяржаўных органаў, якія гэтым займаюцца, і да грамадзянскай супольнасці, якая таксама «ў тэме».

Я б не аддавала на водкуп усяму беларускаму грамадству пытанні рэформаў. Калі сама дзяржава кажа пра тое, што яны патрэбныя, значыць, і пра тое, што ўплыў службоўцаў павінны ўсё-такі паступова змяншацца. Адказнасць варта перанесці на тых, хто вырабляе прадукт, хто яго прадае. Дзяржава — гэта рэгулюючы орган. Яна павінна дзейнічаць такім чынам, каб мы атрымлівалі якасць, і каб наш узровень жыцця паляпшаўся.

— Пагэтаму?

— Таму я пагаджуся з высновай даследавання BISS: дэрэгуляванне неабходнае.

# У 2015 годзе базавая велічыня ў Беларусі вырасце на 20%

**Праект рэспубліканскага бюджэту на 2015 год сфармаваны з улікам росту базавай велічыні са 150 тыс. да 180 тыс. рублёў. Гэта дазволіць прывесці сацыяльныя выплаты з бюджэту, якія залежаць ад базавай велічыні, у адпаведнасць з рэальным узроўнем коштаў, адзначылі ў Мінфіне.**

Рост базавай велічыні паўплывае на вызначэнне памеру аднаразовых дапамог педагогам, медыкам і фармацэўтам, работнікам культуры і мастацтва, спецыялістам сельскай гаспадаркі і ЖКГ, работнікам спажыўкааперацыі пры прыбыцці на працу ў раёны, якія падвергліся радыеактыўнаму забрудджванню ў выніку аварыі на ЧАЭС.

Таксама базавая велічыня ўплывае на памер грашовай дапамогі на аздараўленне асобным катэгорыям грамадзян, штомесячныя грашовыя выплаты лаўрэатам званняў "народны", прэмій і стыпендый прэзідэнта, дапамог, стыпендый і матэрыяльнай дапамогі беспрацоўным, кампенсацыі выдаткаў іншагароднім студэнтам па найме жылля, мінімальных ставак аўтарскага ўзнагароджання, аднаразовага ўзнагароджання работнікам арганізацый, што спусакаліся пад ваду для выканання службовых абавязкаў, і іншых выплат.

Згодна з праектам бюджэту, яго выдаткі ў 2015 годзе складуць 141 трлн рублёў, даходы - 156,7 трлн рублёў, перадае БелТА.



Аляксандр Косінец

# Аляксандр Косінец назначаны кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі

Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка 27 снежня назначыў Аляксандра Косінца Кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе беларускага лідара.

Мікалай Снапкоў і Ігар Бузоўскі назначаны намеснікамі Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*БелТА.*

# Восем в'етнамцаў затрыманы ў Браслаўскім раёне недалёка ад мяжы з Латвіяй

**Памежнікамі Полацкага памежнага атрада сумесна з супрацоўнікамі ДАІ 23 снежня ў Браслаўскім раёне былі затрыманыя восем грамадзянаў В'етнама.**

Падчас адпрацоўкі паступіўшай інфармацыі пра знаходжанне невядомых у памежнай зоне вайскоўцы Полацкага памежнага атрада затрымалі двух чалавек, пасля чаго інфармацыя была аператыўна перададзеная ў Браслаўскі РАУС і выстаўленыя пасты ДАІ.

Неўзабаве недалёка ад месца затрымання ў закінутым будынку былі выяўленыя яшчэ шэсць замежнікаў. Пры сабе чацвёра затрыманых мелі пашпарты грамадзян В'етнама, у аднаго была ксеракопія пасведчання кіроўцы, у траіх адсутнічалі якія-небудзь дакументы. Уязных візаў у Беларусь ні ў каго з іх не было, паведамляе прэс-служба дзяржпамежкамітэту.

Правапарушальнікі дастаўлены на памежную заставу для правядзення далейшага разгляду. В'етнамцам пагражае прыцягненне да адказнасці за парушэнне правілаў знаходжання ў Рэспубліцы Беларусь і за парушэнне Дзяржаўнай мяжы.

З пачатку года полацкія памежнікі затрымалі 74 парушальнікаў, якія ў 27 выпадках спрабавалі парушыць мяжу.

***ННВ***



**Беларускія памежнікі.** *Фота bymedia.net*

# 30-працэнтны збор пры набыцці валюты будзе дзейнічаць 1,5 месяца

**На сайце адміністрацыі кіраўніка беларускай дзяржавы апублікаваны ўказ № 607, якім уведзены 30-працэнтны збор пры набыцці замежнай валюты. Згодна з ім, гэты збор, які ўжо названы падаткам, будзе дзейнічаць да 1 лютага 2015 года.**

Згодна з дакументам, набыццё валюты на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы абкладаецца 30-адсотковым падаткам на біржавыя аперацыі па набыцці валюты. Арганізацыі і ІП, на карысць якіх банкі купляюць валюту на біржы, будуць кампенсаваць банкам суму падатку. Пры гэтым збор не ўваходзіць у затраты па вытворчасці і рэалізацыі тавараў, маёмасных праваў, якія ўлічваюцца пры падаткаабкладанні, і пазарэалізацыйных выдатках. Такім чынам, падатак будзе плаціцца з прыбытку прадпрыемстваў і ІП.

Падатак не трэба будзе плаціць пры набыцці валюты за кошт бюджэтных сродкаў, а таксама для разлікаў за вадкія і газападобныя вуглевадароды, электраэнергію.

Аб выплаце падатку фізічнымі асобамі пры куплі валюты ў абменніках нічога не гаворыцца. А гэта значыць, што падатак на іх не распаўсюджваецца і курс застанецца ранейшым або банкі будуць уключаць яго ў кошт валюты.

